Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 24 6-12 кастрычнка 1995 года ЦАНА 700 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

✓ НАВІНЫ РЭГІЁНА. СЕНСАЦЫІ
✓ ПРАГРАМА TV НА ТЫДЗЕНЬ
✓ РЭКЛАМА

Падказка беспрацоўнаму

## Трывожна на Смаргоншчыне: за ката 6 тысяч даюць

*Калі ласка, не зразумейце назву артыкула так, што смаргонцам акрамя катоў есці няма чаго. Хутчэй наадварот, бо рынак, да прыкладу, там адзін з самых багатых у рэгіёне. Справа ў наступным.*

Улады Смаргоні канстатавалі, што ў населеных пунктах склалася трывожная абстаноўка: сярод дамашніх і дзікіх жывёл распаўсюджваецца шаленства.

Кантакт з хворымі жывёламі смаргонцы маюць не толькі на раёне, але і ў горадзе. Спецыялісты ж не выключаюць перадачу захворвання дамашнім жывёлам ад дзікіх.

Сёлета на Смаргоншчыне назіраецца тэндэнцыя рэзкага павелічэння колькасці жыхароў, што звяртаюцца па медыцынскую дапамогу пасля падобных кантактаў (пакусы, драпіны, аслінаванне).

Тым не менш, у горадзе на гэтую небяспеку практычна не звяртаюць увагу. Асабліва гэта тычыцца жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Як паведамілі нам з мясцовага гарвыканкама, ніводным ЖЭСам, а таксама аддзелам унутраных спраў не праводзяцца планавыя абходы з мэтай кантролю за захоўваннем правілаў утрымання дамашніх жывёл. Няма ў горадзе і пастаяннай брыгады па адлове і знішчэнні бадзяжных жывёл.

А ветэрынарная служба служба раёна больш як за паўгода зрабіла прышчэпкі супраць шаленства крыху больш як 30 працэнтам зарэгістраваных сабак.

Смаргонскі гарадскі выканаўчы камітэт пастанавіў прыняць некаторыя меры па выпраўленні становішча. Сярод іх мэтавае фінансаванне жыллёва-камунальнай гаспадаркі, стварэнне згаданай брыгады па адлове і знішчэнні бадзяжных жывёл, а таксама рэгістрацыя сабак ды катоў з выдачай іх гаспадарам рэгістрацыйных пасведчанняў. Апошняе не зусім зразумела, бо калі сабаку яшчэ можна зарэгістраваць, то з катамі цяжэй. Тым болей, што на вуліцы цяжкавата бывае разабрацца, бадзяжны кот ці дамашні.

Устаноўлены прэміі за адлоў, адстрэл або добраахвотную здачу (!) ў ВА ЖКГ сабак і катоў - адпаведна 0,3 і 0,1 мінімальнай заработнай платы за галаву (просьба апошняе не разумець у прамым сэнсе).

*Застаецца дадаць, што ў іншых гарадах рэгіёна становішча, бадай, не лепшае.*

*У Маладзечне , да прыкладу, бадзяжныя сабакі бегаюць практычна па ўсіх вуліцах зграямі. Ніхто, здаецца, і ўвагу на іх не звяртге. Асабліва гарадскія ўлады.*

Мікола РУЦІЧ

ВОСЬ ТАК І ЖЫВЕМ

## Хто ж будзе карміць нас у XXI стагоддзі?

*Мы ўжо прызвычаіліся да некалі чужой (капіталістычнай), а цяпер такой роднай і дарагой нам усім з'явы, як крызіс. Ён цяпер паўсюль — у прамысловасці, сельскай гаспадарцы, палітыцы, чалавечых адносінах...*

Аб гэтым цяпер ужо адкрыта гаворыцца ў сродках масавай інфармацыі. Аднак пакуль не так адкрыта згадваюцца прычыны, якія прывялі да такога становішча. Вінаватых, быццам, няма. А калі ўжо і зойдзе гаворка аб іх на нейкай там нарадзе ці "круглым стале", то атрымліваецца, што асноўны вінаўнік усіх нашых бедаў той жа калгаснік, які не ведае, калі сеяць, убіраць ураджай, а потым з выгадай прадаць яго, каб нешта набыць з угнаеннаў або тэхнікі; ці рабочы, што не мае ніякага ўяўлення аб рынавых зносінах і таму не разумее, як трэба "круціцца", каб "пацякла вада пад ляжачы камень".

Нічога новага! І раней, і цяпер мужык як быў апошнім, "стрэлачнікам", такім ён і застаўся. А між іншым статыстыка сведчыць, што працягласць жыцця вясковага насельніцтва, якое лічыцца донарам нашай эканомікі і захавальнікам генафонду нацыі, моцна скарацілася і складае 64,7 года.

Дэмаграфічны крызіс – гэта, бадай, самае страшнае для беларусаў як нацыі. Вучоныя прагназуюць, што ўжо да 2015 года насельніцтва нашай краіны скароціцца на 800 тысяч чалавек. І прычына — у перавышэнні смяротнасці над нараджальнасцю.

У Маладзечанскім раёне, напрыклад, з пачатку года нарадзілася каля 310 дзяцей, у той час як пайшло з жыцця больш за 650 чалавек. Цяжкае матэрыяльнае становішча, беззмоўна, уплывае на нармальнае існаванне сям'і.

Як вынік - на кожны шлюб прыходзіцца два разводы.

А вось яшчэ дадзеныя па гэтым раёне, якія таксама прымушаюць задумацца: у наркалагічным дыспансеры састаяць на ўліку 229 сем'яў хранічных алкаголікаў, у іх выхоўваецца 19 дашкольнікаў і 237 дзяцей школьнага ўзросту.

І гэта толькі па адным раёне. Так і хочацца зазначыць: бяздумны шлях адраджэння вядзе нас да знішчэння.

І. КАЛІНІЧЭНКА

## Вадзіцель проста... "выпіў піва"

*МЯДЗЕЛ. Адбылося гэта вечарам у мінулы панядзелак.*

Калі быць больш дакладным, у 21 гадзіну. Вадзіцель аддзела сацыяльнага забеспячэння Сямён Паршута, рухаючыся па вуліцы Нарачанскай на аўтамабілі "Жыгулі" ,не справіўся з кіраваннем, выехаў на паласу сустрэчнага руху і зваліўся ў кювет. Службовы аўтамабіль атрымаў значныя пашкоджанні. Як тлумачыў супрацоўнікам ДАІ С. Паршута, ён толькі выпіў піва. На наш погляд, больш важна адказаць, чаму вадзіцель у нерабочы час раз'язджае на службовым легкавіку. Прытым, у нецвярозым стане.

Я. ДУБІНСКІ

## Жыццё кароткае такое

*Сумна выглядае дэмаграфічнае дрэва Валожыншчыны.*

У апошнія гады яно пачало інтэнсіўна старэць. Летась, напрыклад, нарадзілася толькі 503 немаўляткі, а памерла больш тысячы чалавек. Амаль кожны шосты жыхар раёна памёр, не дачакаўшыся выхаду на пенсію. Таму і насцярожваюць пажылых людзей чуткі пра магчымае павелічэнне пенсійнага ўзросту. Бо дачакаюцца гарантаванай дзяржаўнай дапамогі ў старасці, мабыць, нямногія.

Ірына ПАШКЕВІЧ

## Канцэрт віншаванняў ад беларусаў з Польшчы




Шаноўнае спадарства!

Беларуская Рэдакцыя Польскага Радыё з прыемнасцю паведамляе, што, ідучы насустрач прапановам многіх слухачоў, яна ўвяла новую перадачу "Канцэрт віншаванняў". Праз гэту праграму можаце перадаць зычэнні здзяйснення ўсіх мараў у жыцці Вашым блізкім ды знаёмым. І гэта ўсё за кошт аднай маркі, якую трэба наклеіць на канверт, у канверт укласці сваю заяўку і пераслаць на адрас:

Беларуская Рэдакцыя Польскага Радыё
00-977 Варшава
P. O. Box 46
Польшча

Застаецца толькі скарыстаць з нагоды і напісаць нам.Па меры нашых магчымасцяў мы пастараемся таксама заспакоіць Вашы музычныя запатрабаванні. А наш "Канцэрт віншаванняў" гучыць кожную нядзелю ў перадачы ў 16.30 ды ў панядзелак у перадачы ў 19.00 па мінскім часе.

Чакаем Вашых заявак!

Нагадваем, што нашы перадачы выходзяць у эфір тры разы ў тыдзень:

у 14.30 на кароткіх хвалях 41,18 м і 50,04 (адпаведныя частоты 7285 і 5995 кГц),

у 16.30 на кароткіх хвалях 41, 27м і 49,22 (а.ч. 7270 і 6095 кГц),

у 19.00 на кароткіх хвалях 41, 27 м і 49,22 (а.ч. 7270, 6095 кГц).

Прыйшоў рынак на Валожыншчыну

## Фарба з Івянца

Палову будынка былога кантэйнернага цэха Івянецкі дрэваапрацоўчы камбінат здаў у арэнду таварыству з абмежаванай адказнасцю "КІУС". Ікіравала імі не толькі выгада ад арэнднай платы (40 мільёнаў рублёў у год для калектыву не такія ўжо вялікія грошы), а тое, што па-першае, новыя гаспадары цалкам адрамантавалі будынак, які пачынаў прыходзіць у занапад. Па-другое, вельмі карысную справу наладзілі прадпрымальнікі. Яны пачалі выпуск латэкснай фарбы 120 адценняў для вонкавых і ўнутраных работ па амерыканскай тэхналогіі. У гэтай справе яны на Беларусі першаадкрывальнікі. Фарба атрымліваецца зусім бясшкоднай, без нітрададаткаў. Першая пробная партыя апраўдала спадзяванні вытворцаў.

## Кааперацыю папрасілі пасунуцца

Не ведаю, як дзе, а ў Валожынскім раёне ў канкурэнцыю з паўпустуючымі крамамі спажывецкай кааперацыі ўступілі гарадскія і сельскія аддзяленні сувязі. Сувязісты прынялі рашэнне весці гандаль таварамі народнага спажывання. Тут абсталёўваюцца вітрыны, прылаўкі, дзе неўзабаве з'явяцца кнігі, канцтавары, парфума і галантарэя, цыгарэты. А паштальёны папярэдне правялі апытанне жыхароў, каб высветліць попыт на тыя ці іншыя тавары.

Вяскоўцы асабліва дзвюма рукамі "за" такое новаўвядзенне. Бо большасць магазінаў тут перайшла на гандаль прадуктамі харчавання, цалкам выкрэсліўшы прамысловую групу тавараў.

Наталля ШТЭЙНЕР

